# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 15 (580) ГОД XII 9 КРАСАВІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### НАСТАЎНІЦКІЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

По ініцыятыве БГКТ у паасобных паветах адбыліся канферэнцыі з настаўнікамі беларускіх школ. Разглядаліся тут справы рэалізацыі распараджэння міністра асветы і вышэйшай адукацыі аб навучанні гісторыі бел. народа, а таксама кантакты БГКТ — настаўнік. Вось справаздачы нашых прадстаўнікоў.

**Бельск**

Была гэта канферэнцыя кіраўнікоў школ і настаўнікаў беларускай мовы. Адбылася яна ў памяшканні Прэзідыума ПРН 23.III.1967 г. Прысутнічала больш 70 асоб. Арганізатарам нарады быў Аддзел асветы і БГКТ.

Канферэнцыю адкрыў **школьны інспектар Мар'ян Татарчук,** падкрэсліваючы, што гэта першая такога тыпу канферэнцыя і што лічыць ён неабходным у далейшым сустракацца, каб магчы лепш вырашаць цяжкасці беларускага школьніцтва. Далей нараду вёў **намеснік інспектара Юзэф Альшэўскі, намеснік старшыні аддзела БГКТ.** З дакладамі выступілі: «Аб рэалізацыі інструкцыі ў справе навучання гісторыі» — падінспектар **Сцяпан Трафімюк** і «настаўнік і БГКТ» — **Мікола Лобач.**

У канферэнцыі прыняў удзел сакратар ГП **Уладзімір Юзвюк,** а прафсаюзную арганізацыю настаўнікаў прадстаўляў **прэзас павятовага праўлення ЗНП Уладзімір Лазінскі.** Пасля дакладаў вывязалася шчырая і цікавая дыскусія, у якой выступіла 11 асоб. Неабходна падкрэсліць, што датычыла яна не толькі спраў, аб якіх гаварылася ў дакладах, але і шырэйшых. Цікава выступалі **А. Карпюк** з Орлі, **Ул. Антанюк** з Дзянісак, **В. Панасюк** з Пасынак, **Я. Суліма** з Бельска, **З. Шэнголец** з Райска, **Ул. Лазінскі** з ЗНП і інш. Да тэматыкі выступленняў мы яшчэ вернемся. Хочацца толькі падкрэсліць, што тав. У. Лазінскі ад імя сваёй арганізацыі прадставіў прапановы, як прафсаюзная настаўніцкая арганізацыя стараецца наладзіць справы беларускага школьніцтва і настаўнікаў.

Канферэнцыя ў Бельску выпала вельмі добра, цікава і карысна, за што прызнанне яе арганізатарам. А.К.

**Гайнаўка**

18 сакавіка ў гайнаўскім Доме Настаўніка адбылася канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Падінспектар аддзела асветы ў Гайнаўцы Сяргей Бароўскі паінфармаваў прысутных аб праблемах навучання беларускай мовы ў Гайнаўскім павеце. Алесь Барскі расказаў аб польска-беларускіх літаратурных сувязях, а Ўладзімір Паўлючук аб ролі настаўніка ў меншасным асяроддзі. Прэзас мясцовага ПЗГС Кастусь Майсеня прааналізаваў справы кааператыўнага гандлю ў павеце і ролю настаўнікаў у кааператыўным руху.

У дыскусіі настаўнікі сканцэнтраваліся перад усім на практычных праблемах навучання беларускай мовы. Выказвана погляд, што галоўнымі перашкодамі ў навучанні гэтага прадмета з'яўляецца: недахоп падручнікаў, навучальных дапаможнікаў, недахопы новай праграмы, неўласцівыя адносіны да навучання беларускай мовы з боку некаторых школьных улад. Пададзена некалькі прапаноў вырашэння існуючых цяжкасцей. На асаблівую ўвагу заслугоўвае прапанова Ніны Вішнеўскай, каб арганізаваць нараду настаўнікаў з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства асветы і выдавецтва (ПЗВС) дзеля больш дакладнага абмеркавання існуючых цяжкасцей. (П)

(Працяг на стар. 5)



**У паветры запахла вясной. Нават стройныя вербы прыглядаюцца ў люстэрку вады, ці іх кроны адпаведна ўпрыгожаны, каб сустрэць гэтую, што ўваскрасае ўсё жывое.** **Фота В. Рудчык**




Было якраз праваслаўнае свята — Благавешчане. Снег ужо сплыў, а дзень быў сонечны і цёплы. Людзі, як звычайна ў нашай вёсцы, павыходзілі з хат і расселіся па лавачках, талкуючы аб ваенных падзеях, аб зверствах гітлераўскіх акупантаў, аб змаганнях партызан. Часам грукнула звонкая маладзёжная песня пра «Кацюшу», пра «партызана, што ляжыць зарыты ў сырой зямлі», або і звычайна «Выпрагайце хлопцы коні». Ніхто не спадзяваўся гэтай вялікай бяды. Пад абед са станцыі Чаромуха прыехалі жандары. Там яны мелі сваё гняздо, узмоцненае тоўстай агароджай з калючага дроту і магутнымі бетоннымі бункерамі. Групай кіраваў сам шэф чаромухаўскай пляцоўкі.

Набліжаліся яны да вёскі.

Ад лесу раздаліся першыя выстралы. Жандары пападалі ў барозны агарода. Іх шэф падняў галаву, прыставіў да вачэй бінокль і разглядаў аколіцу. Раптам бінокль выляцеў яму з рук, а ён зарыўся носам у сырую зямлю.

Страляніна хутка замоўкла. Але жандары вар'яцелі ад злосці. З бліжэйшых хат выцягнулі яны чатырох ні ў чым не вінаватых мужыкоў, загадалі ім пакласці цела забітага на воз і.. тут жа іх расстралялі. Ды яшчэ як растралялі! Аўтаматнай чаргой у жывот. Няшчасныя мучыліся па некалькі гадзін.

Жандары забралі з сабой Івана Ваўранюка — солтыса і накіраваліся назад у Чаромуху. Ехаць вясковай вуліцай пабаяліся. Паехалі пазагуменню. Па дарозе сустрэлі двух чалавек. Да абодвух стралялі без папярэджання. Аднаго — старога, бязрукага, адзінокага мужчыну — забілі на смерць, а другога цяжка паранілі ў лёгкія. Яму ўдалося вылечыцца.

**ТРЫВОГА**

Над вёскай навіс страх. Ведалі ж людзі, што гестапаўцы не задаволяцца ахвярамі, якіх яны пакінулі ў вёсцы. Ведалі ж іх правіла: за аднаго немца — 100 беларусаў! Чулі ж ужо пра Райск, і пра трагічны лёс многіх другіх вёсак.

— Што рабіць? — пытаў сусед суседа.

Рашылі ўцякаць з вёскі. Хутчэй збіралі што найцаннейшае, грузілі на вазы і гайда! Хто проста ў лес, а хто да знаёмых і сваякоў у суседнія вёскі. Вулька Нурэцкая апусцела. У вёсцы асталіся толькі некаторыя жанчыны і ўжо зусім нядужыя старыя.

— Калі спаляць вёску, мы ўсе — у партызаны! — згодна рашылі мужчыны.

**АГОНЬ!**

У Вульку Нурэцкую зваліліся гестапаўцы і жандары. На некалькіх аўтамашынах. Прымчаліся зараз жа на другі дзень зранку. Акружылі вёску, абставілі кулямётамі. Нават кот не змог прабегчы. Пачалі шнырыць па хатах. Каго нашлі, валаклі ў школу. А папалася нейкая малодшая жанчына, дык... не даравалі.

Гітлераўцы бушавалі ў вёсцы тры дні. Я з братам і сястрой схаваліся ў знаёмых на хутары Янцэвічы — 2—3 кіламетры ад нашай вёскі. Раслі там высокія, стройныя бярозкі, з якіх відаць было некаторыя вулькаўскія хаты. Я гадзінамі сядзеў на гэтых бярозах. Глядзеў, калі паявіцца чырвонае вогнішча над нашай вёскай. Найбольш мы баяліся за нашу маму. Яна засталася да-

(Працяг на стар. 4)




* * *

За ўдзячнасць гэтае сустрэчы,
За асалоду пачуцця
Пражыта столькі недарэчных,
Балючых дзён майго жыцця.
Я назаву сябе шчаслівай
За пробліск сонечны надзей...
Ёсць у кахання справядлівасць,
Якой не знойдзеш у людзей.
Ёсць у кахання паслядоўнасць
І глыбіня, і вышыня.
А мы так любім павярхоўна
Ў турботах сённяшняга дня.
Страх не дарэмна сэрца мучыць,
Што памыляешся часцей.
Я знаю: ты мяне навучыш
Быць і сур'ёзней, і прасцей.
І будзе мне з тваім каханнем
У колькі раз пражыць цяжэй,
Ты гэтым толькі мне жаданей,
Бо шчасце з горам даражэй.

**Вера Вярба**




**Х сесія Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку на спецыяльным пасяджэнні зацвердзіла перспектыўную праграму развіцця культуры ў ваяводстве. Перспектыва сягае 1985 года.**
**Якая будзе наша культура?**

**ПРАЎДА ПЕРШАЯ**

Наша культура не з'яўляецца культурай групы ці класа. Гэта культура ўсіх. Нашую культуру вызначае ўсеагульная асвета, а найперш — пачатковая школа. Не можа быць культурным непісьменны і не можна культуры прывіць непісьменным ці паўпісьменным.

**ПРАЎДА ДРУГАЯ**

Чалавек культурны — гэта чалавек чытаючы кніжкі, газеты, часопісы. Абавязкова ўсё больш газет і часопісаў. Адгэтуль вага бібліятэк: школьных, публічных грамадскіх, прафсаюзных, прыватных. Кніжка ў кожных руках. І абавязкова ў кожных руках кожны дзень і тыдзень газета (найперш «Ніва»). Беластоцкае ваяводства пляцецца ў хвасце ў чытальніцтве газет і таму беластачане многа менш ведаюць аб навінах на свеце.

**ПРАЎДА ТРЭЦЯЯ**

Не зробіце чалавека культурным, хоць збудуеце святліцу, нават дом культуры, заложыце клуб, запарыце каву, арганізуеце забаву, фест. Культурным будзе чалавек, калі сам гэтага захоча. Калі адчуе тугу за праўдай першай (каб быць вучаным) і за праўдай другой (каб быць начытаным).

**ПРАЎДА ЧАЦВЁРТАЯ**

Культура каштуе. Як сукенка, як кавалак хлеба, як гарэлка. Каб быць сытым гарэлкай, чалавек наш выдае горбу грошай, а каб быць культурным выдае 2 зл. у год (паводле статыстыкі). Смешна мала! Трэба крыху перaставіць ў будучыні гэтыя выдаткі, каб рабіцца ўсё больш культурным.

**Бо:**

У 1985 годзе чалавек напэўна будзе на Месяцы. А цікава, як тады будзе выглядаць наша беластоцкая культура, якімі будуць усе людзі? Ці па святліцах без акон у далейшым будзе гуляць касмічны вецер?

У 1985 годзе будзе больш кніжак у бібліятэках, больш «культурных пляцовак», тэлевізараў і г.д. Але якая будзе культура ў тым далёкім і блізкім годзе 1985-ым залежыць ад кожнага ў паасобку, і ад зразумення чатырох вышэйшых праўд.

**Вера Леўчук**

*Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі*

## СВЕТ

### ПАПСКАЕ ПАСЛАННЕ

У мінулым тыдні апублікавана пасланне папы Паўла VI «Прагрэс народаў». Надыйшоў час, — чытаем у пасланні, — у якім кожны чалавек і ўсе народы павінны сабе ўсведаміць свае абавязкі. Сітуацыя вельмі складаная: багатыя стаюцца ўсё больш багатымі, а бедныя далей астаюцца беднымі. Не хопіць зліквідаваць голад і паменшыць беднату і галечу, але трэба так наладзіць грамадскія суадносіны ў свеце, каб кожны чалавек мог суцяшацца паўнатой людскога жыцця. Мір у сучаснасці абазначае развіццё.

### НАТХНЯЮЧАЯ ПАДТРЫМКА

У сталіцы Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам падпісана план культурнага і навуковага супрацоўніцтва на 1967 год між Савецкім Саюзам і ДРВ. Прадугледжвае ён значнае расшырэнне савецка-в'етнамскага супрацоўніцтва ў галіне культуры, навукі, асветы, літаратуры і спорту. Многа месца прысвячаецца падрыхтоўцы спецыялістаў для ДРВ. Зараз у Савецкім Саюзе вучыцца 2.100 в'етнамскіх студэнтаў. Улічваючы в'етнамскія патрэбы ў гэтай галіне СССР выразіў згоду прыняць у 1967 годзе яшчэ 1500 в'етнамскіх аспірантаў, студэнтаў і стажыстаў.

### ПАМЁР МАРШАЛ Р. МАЛІНОЎСКІ

31 сакавіка г.г. памёр міністр абароны СССР маршал **Радыён Маліноўскі.** Памершы меў 69 год. Быў ён членам ЦК КПСС, дэпутатам у Вярхоўны Савет СССР і двойчыгероем СССР. З'яўляўся таксама выдатным дзяржаўным дзеячом, вялікім савецкім камандзірам і адным з актыўных будаўнікоў узброеных сіл СССР.

Лекарскае камюніке сцвярджае, што маршал Р. Маліноўскі даўжэйшы час хварэў і памёр на рака падстраўнікавай залозы, які перакідаўся на вантробу і іншыя органы. Маршал Р. Маліноўскі пахаваны на Чырвонай Плошчы ў Маскве ля Крамлёўскай сцяны. Быў ён міністрам абароны СССР ад 1957 года.

### НЕАНАЦЫСЦКІ ФІЛІЯЛ

У Іаганасбургу (Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка) створана своеасаблівы філіял неанацысцкай нацыянал-дэмакратычнай партыі. Гэты філіял, які аб'ядноўвае ў асноўным немцаў, што жывуць у ПАР, атрымаў назву «Нямецкае аб'яднанне верных народу саюзаў у Паўднёвай Афрыцы». Мэтай гэтай арганізацыі, як паведамляюць заходнегерманскія газеты, з'яўляецца аказанне маральнай і палітычнай падтрымкі нацыянал-дэмакратычнай партыі ў яе барацьбе за ўмацаванне сваіх палітычных пазіцый у ФРГ.

### ЗАЯВА ПАКІСТАНСКАГА МІНІСТРА

40% пакістанскага замежнага гандлю прыпадае на краіны сацыялістычнага лагера, заявіў міністр гандлю Пакістана Гулам Фарук. З падпісаннем гандлёвых пагадненняў з Румыніяй і Венгрыяй гандаль з гэтымі краінамі павялічыўся яшчэ больш, адзначыў міністр.

А. К.

## БССР

### «АКАДЭМІЯ»

Студэнцкай акадэміяй навук названа XIII навукова-тэхнічную студэнцкую канферэнцыю Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, якая адбылася ў Мінскім палітэхнічным інстытуце. У праграме канферэнцыі каля васьмісот дакладаў аб сучасных праблемах навукі і тэхнікі.

### ЦАЛІНА

«— Палеская нізіна павінна стаць буйным раёнам па вытворчасці збожжа і кармоў у нечарназёмнай зоне» — сцвердзіў Я. Аляксееўскі, міністр меліярацыі і воднай гаспадаркі Саюза ССР. Артыкул Аляксееўскага «Палеская цаліна» змясціла цэнтральная беларуская газета «Звязда».

### ДЭЛЕГАЦЫЯ

Мінск наведала дэлегацыя кіруючых работнікаў і актывістаў Італьянскай федэрацыі камуністычнай моладзі.

### ТЫДЗЕНЬ

Адбыўся тыдзень дзіцячай кніжкі. Сустрэчы з пісьменнікамі адбыліся ў Слуцку, Дзяржынску і іншых гарадах Беларусі.

### НАВІГАЦЫЯ

На Прыпяці пачалася навігацыя. Першы пасажырскі курс зроблена ад прыстані Мазыр да Турава.

### СЛУШНА

В. Талстой, аўтар кніжкі «Братняе супрацоўніцтва беларускага і польскага народаў», робіць слушную заўвагу, што здабыткі беларускай літаратуры прапагандуюцца ў Польшчы яшчэ недастаткова.

### ФЕСТЫВАЛЬ

У Мінску адбыўся рэспубліканскі фестываль самадзейнага тэатральнага мастацтва.

### СЕМІНАР

У Мінску адбыўся семінар беларускіх журналістаў, якія пішуць на атэістычныя тэмы. Заўважана, што антырэлігійная прапаганда вядзецца надта прымітыўна.

### ЭСТРАДА

У Маскве выступала беларуская эстрада. У праграме — песні, гумар, пародыі і г.д.

Нараджаецца беларускае эстраднае мастацтва. Створана ўжо эстрадную секцыю пры Саюзе кампазітараў БССР.

### СЕСІЯ

У Гродне адбылася сесія абласнога Савета дэпутатаў працоўных. На сесіі абмеркавана справу — **«Аб мерах па выкананню пастановы ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР па далейшаму паляпшэнню работы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы».**

Новым старшынёй выканаўчага камітэта абласнога Савета выбраны Н. Малочка.

### СЕМІНАР

Гродзенскія пісьменнікі і рэдакцыя «Гродненской правды» наладзілі семінар вучняў старэйшых класаў, якія спрабуюць сілы ў паэзіі.

С.Я.

## ПОЛЬШЧА

### РАТАВАННЕ ГОРАДА

29.III. падпісана афіцыйны дакумент у справе ратавання Сандомежа. Горад стаіць на лабірынце глыбокіх склепаў. якія будавалі мяшчане яшчэ ў XIII і XIV стагоддзях. Склепы зусім змуршэлі, усімі шчылінамі прапускаюць ваду, якая размывае лёсавы сандамерскі грунт, надвіслянскі адхон Сандомежа паволі але пастаянна абсоўваецца, пагражаючы абвалам пабудаваных на ім будынкаў. Апрацавана падрабязны план ратавання будынкаў. З дапамогаю прышлі многія прадпрыемствы краіны высылаючы ў Сандомеж адпаведныя сродкі і спецыялістаў. У першым этапе будуць праведзены дакладныя доследы геалагічнай структуры адхону і сістэмы падземных склепаў і пераходаў.

### ПАДТРЫМКА

У сувязі з падпісаннем Дагавору аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Польшчаю і ГДР многія прадпрыемствы і арганізацыі краіны накіравалі ў адрас прадпрыемстваў і арганізацый ГДР, або ў адрас пасольства ГДР у Польшчы лісты, у якіх выявілі поўную падтрымку падпісанага Дагавору.

### ЧЫСЦІНЯ ВАДАЁМАЎ

У днях ад 1 да 7.IV. праводзіўся ў нас «Тыдзень чысціні вады». Пры нагодзе аказалася, што маем у краіне 570 тыс. гект. featureрознага роду вадаёмаў, якія безупынна занечышчаюцца прамысловымі сцёкамі. Зараз працуе ў краіне 329 прадпрыемстваў, якія атручваюць нашыя вадаёмы. У тым ліку 221 прадпрыемства спускае моцныя труючыя сцёкі да рэкаў, 56 да азёраў і 52 да сажалак. Дзяржава выдзяляе параўнальна вялікія сумы на пабудову ачышчанняў сцёкаў (так, напрыклад, у 1961—1965 гадах выдадзена на гэта 25 мільярдаў злотых). Інвестыцыі гэтыя аднак затармазілі працэс занечышчэння толькі ў нязначнай ступені. Сітуацыя нашых водаў надалей алярмуючая.

### ПРАЕКТ

Цэнтральнае бюро водна-меліярацыйных студыяў і праектаў праектуе гіганцкую інвестыцыю накіравання водаў мазурскіх азёраў, якія бескарысна сплываюць у мора, на палі Курп'ёўшчыны. Воды наводняць такім чынам 100 тысяч гектараў сенажацяў. Рэалізацыя плана патрабаваць будзе пабудовы цэлай сістэмы каналаў, якія стануцца новымі цікавымі турыстычнымі шляхамі. Праект будзе гатовы ў палове 1968 года.

### ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ

Найбольшы ў краіне гмах — варшаўскі Палац культуры пабіў падвойны рэкорд гасціннасці. Яго залы віталі ўжо 80-мільённага наведвальніка, у тым ліку мільённага госця з-за мяжы. За 12 гадоў адбылося ў палацы 82 тысячы рознага роду мерапрыемстваў, гэта значыць каля 20 штодзённа. Кожны дзень праз залы палаца праходзіць каля 40 тысяч наведвальнікаў. Прабываючы штодзённа ў іншым пакоі, можна ў палацы пражыць 2 гады. Палац распараджаецца гадавым бюджэтам на суму 62 мільёны злотых.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### МАЙСТРЫ ЎРАДЖАЮ

2 красавіка адбыўся ў Лапах з'езд сялян перадавікоў сельскагаспадарчай прадукцыі. У з'ездзе прыняў удзел I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП А. Лашэвіч. 25 гаспадароў атрымала званне «Перадавога хлебароба».

### ТПП-Р

29 сакавіка адбыўся ў Беластоку X-ты ваяводскі з'езд Таварыства польска-савецкай дружбы, у якім прынялі ўдзел і савецкія госці: саветнік пасольства СССР у Польшчы, Фёдар Шарыкін і прадстаўнік Таварыства сувязі і культурнага супрацоўніцтва з заграніцай — Анатоль Аброзаў. З'езд падвёў вынікі дагэтуляшняй дзейнасці Таварыства. 13 асоб, асабліва заслужаных для Таварыства, атрымала залатыя ганаровыя адзнакі ТПП-Р.

### КАСТРЫЧНІЦКАЯ ВАХТА

Безупынна паступаюць паведамленні аб высакавартасных абавязацельствах у гонар 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, Першамая і Свята Адраджэння. На кастрычніцкую вахту сталі рабочыя «Фаст», бельскай рашарні, прадпрыемства ЦПН, фабрыкі імя Сяржана, мазурскай тытунёвай фабрыкі ў Аўгустове, металаапрацоўчай фабрыкі ў Беластоку, мяльніцкага прадпрыемства крэйды і многіх другіх прадпрыемстваў, ад якіх не маем вестак. Кожнае абавязацельства пералічваецца на мільёны дадатковай прадукцыі або ашчаднасцей у тэхналагічных працэсах.

### ЛАЎРЭАТ

Журналіст «Беластоцкай газеты», малады, але таленавіты, пачынаючы пісьменнік Эдвард Рэдлінскі заваяваў другое месца ў конкурсе на аповесць або том апавяданняў, які для дэбютантаў аб'явіла «Людовая спулдзельня выдаўніча». Конкурсная камісія першай ўзнагароды зусім не прызнала. Эдвард Рэдлінскі, пераможца ваяводскіх літаратурных конкурсаў, рашуча высоўваецца на чало беластоцкага літаратурнага асяроддзя. Яго апавяданні сваёй тэматыкай цесна звязаны з вёскай Беласточчыны. Віншуем яго і жадаем яму поспехаў.

### ДОМ АФІЦЭРА

Клуб афіцэраў запаса ў Сямяцічах рашыў пабудаваць у сваім горадзе «Дом афіцэраў запаса імя Салдатаў КББ. паўшых у баях за замацаванне народнай улады». Старшынёю грамадскага камітэта пабудовы выбралі М. Паўтарака, які з'яўляецца сакратаром Прэзідыума ПРН у Сямяцічах. У новым будынку, калі яго пабудуюць, знойдуць памяшканне Ліга абароны краіны, Саюз ваенных інвалідаў і ЗБоВіД.

### ГУЛЬНЯ СА ЎЗРЫЎЧАТКАМІ

Язэп Галота, 21-гадовы юнак з Элку, прыдумаў змайстраваць своеасаблівую ўзрыўчатку з пораху патронаў. Выпрабаваць яе рашыў у элцкай кавярні «Байка». Петарда параніла ногу адной дзяўчыне і разарвала яе ручную торбачку. Язэпа Галоту засудзілі на 2 гады з завостраным рэжымам.

(в)




**Niedziela 9.IV.**

8.20 Politechnika TV; 10.55 „Śladami kpt. Cooka" — film wł. odc. II; 11.45 Dziennik; 11.55 PKF; 12.05 Poranek muzyczny; 12.45 „Czarownice"; 13.10 „Przemiany"; 13.35 „Piórkiem i węglem"; 14.00 Teatr Młodego Widza; 15.15 „Teleplasticon"; 15.55 „Portrety"; 17.00 Sprawozdanie sportowe; 17.45 „Ludzie i zdarzenia"; 18.00 Teatrzyk Jadwigi Rutkowskiej; 18.45 „Profesor Tutka był dziennikarzem" — film tv pol.; 19.00 Felieton literacki A. Sandauera; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Złodziej z Tibidabo" — film fab. fr.; 21.45 Niedziela Sportowa.

**Poniedziałek 10.IV.**

16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: „Przygody Gapiszona" — film; 17.10 Dla młodych widzów: „Zwierzyniec domowy" odc. I; 17.30 „Radar"; 17.40 „Trudne drogi nowoczesności"; 18.05 Kino Krótkich Filmów; 18.35 Eureka; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Od Kaukazu do Tień-Szaniu"; 20.20 Teatr TV: „Żołnierz Królowej Madagaskaru"; 21.45 „Na półkach księgarskich"; 21.55 „Gawędy o współczesności"; 22.10 Dziennik.

**Wtorek 11.IV.**

10.55 Dla szkół: A. Czechow „Wiśniowy sad" („Dzieje dramatu"); 11.30 „Uwaga, uwaga nadchodzi" — film dokument.; 15.25 „Prowadzenie rachunkowości w gospodarstwie"; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Dziennik; 17.05 „Młodzi wynalazcy"; 17.20 „Zapraszam na wtorek wieczór" — wizyta u Rektora Politechniki Krakowskiej; 17.50 Telekram; 18.00 „Giełda piosenki"; 18.35 „Próby"; 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Wieczór Wawelski" — transmisja fragmentu koncertu kameralnego. Wystąpi pianista radziecki Rudolf Kerer; 20.40 „Uwaga, uwaga nadchodzi" — film dokument.; 21.20 „Mały profesor" — nowela film. wg G. de Maupassanta; 21.45 „Panorama Literacka"; 22.25 Dziennik; 22.45 Politechnika TV.

**Sroda 12.IV.**

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Sprężone powietrze"; 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) „Co to jest RWPG"; 11.30 „Po drugiej stronie muru" — film tv USA; 16.25 „Maszyny i narzędzia do pielęgnacji okopowych"; 16.35 PKF; 16.45 „Struś Jonatan" — groteska film. CSRS; 16.55 Dziennik; 17.00 „Pan Półka i spółka"; 17.20 „Nie tylko dla pań"; 17.45 „Sezon już trwa"; 18.10 „Sylwetki X Muzy" — Barbara Krafftówna; 18.40 „Jak patrzeć na dzieło sztuki"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „U bułgarskich rybaków" — film; 20.20 „Po drugiej stronie muru" — film tv USA; 21.10 „Światowid"; 21.40 Fragmenty spektakli z Ogólnopolskiego Festiwalu Teatrów Małych Form; 22.20 Dziennik.

**Czwartek 13.IV.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) „Generał Świerczewski"; 10.55 Dla szkół: (kl. V) „Spotkanie z Alicją i Czesławem Centkiewiczami"; 16.15 „Ochrona sadów w 1967 r."; 16.45 Film; 16.55 Dziennik; 17.00 „Kino Ptyś"; 17.15 „Co dalej, ósma klaso?" odc. III; 17.35 „Medale i detale"; 17.55 „Kwadrans zagadek"; 18.10 „Wiosna w pęczkach"; 18.30 „Przegląd muzyczny"; 19.00 „Leningradzka niedziela" — rep. film.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Osiem godzin w obiektywie"; 20.25 Teatr KOBRA: „Annabella" A. i W. Roos; 21.35 Wszechnica TV: „Morska Temida"; 22.05 Dziennik.

**Piątek 14.IV.**

9.00 „Koniec naszego świata" — film fab. pol.; 11.55 Dla szkół: (kl. XI) „Kierunki filozoficzne we współczesnej literaturze"; 12.45 Dla szkół: (kl. I) „Orzeł biały"; 16.55 Dziennik; 17.00 „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: „Pisarska przygoda Haliny Snopkiewicz"; 17.30 „Przygody Robinsona Crusoe" — film odc. VI; 17.55 Wszechnica TV: „Życie codzienne Polaków"; 18.25 „Wielokropek"; 18.45 „Poligon"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 „Koniec naszego świata" — film fab. pol.; 22.45 Dziennik.

**Sobota 15.IV.**

10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Ruchy ziemi"; 11.25 „Wielka szansa" — film fab. fr.; 16.15 Program tygodnia; 16.35 Dla nauczycieli: „Ocena" cz. II — program dyskusyjny; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla młodych widzów: „Jedenasta A"; 17.20 „Spotkania z przyrodą"; 17.45 „Gawędy wilków morskich"; 18.00 Francuskie melodie rozrywkowe — film; 18.30 Tele — Echo; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Błękitny express"; 20.30 „Czy to się spodoba" A. Skalda — program muzyczno-baletowy; 21.30 Dziennik; 21.45 Wiadomości sportowe; 21.55 „Wielka szansa" — film fab. fr. (od lat 16).




**7 kwietnia, piątek**

9.00 Dziennik; 9.15 Film animowany; 9.45 Wiedza polityczna dla wszystkich; 14.20 Program; 14.25 Dla harcerzy; 15.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Tbilisi) — „Torpedo" (Moskwa); 16.45 Sztafeta nowin; 17.30 „Młoda Gwardia". Film. II seria; 18.50 Dziennik; 19.05 „Było to w Pińsku"; 19.30 Teatr TV. F. Dürrenmatt. „Sędzia i kat". I seria; 20.30 Robotniczy Klub TV; 21.15 Piłka nożna. „Dynamo" (Mińsk) — „Szachtior" (Donieck).

**8 kwietnia, sobota**

12.15 Program; 12.20 Dla uczniów; 12.50 Teatr kukiełkowy; 14.00 Technika dzieci; 14.30 Klub filmowy; 15.30 „Od Lutego do Października"; 15.45 Dziennik; 16.00 E. Dürrenmatt. „Sędzia i kat". II seria; 17.00 „Ogoniok"; 18.15 Spektakl teatralny z Moskwy.

**9 kwietnia, niedziela**

7.55 Program; 8.00 Budzik; 8.30 Gimnastyka; 9.00 dla dzieci. „Operacja „Sokół"; 9.25 Film kukiełkowy; 10.00 Dla uczniów. Program z Węgier; 10.45 Wyborg. Program z Leningradu; 11.15 Podróże TV; 12.10 Wszechzwiązkowy Festywal Twórczości Amatorskiej; 12.50 Dla żołnierzy; 13.20 Szkatułka muzyczna; 13.40 Mistrzowie filmu białoruskiego; 14.45 Dziennik; 15.00 Kiosk muzyczny; 15.30 Blaski i cienie; 16.00 „Nikt nie chciał umierać". Film; 18.00 Dziennik; 18.30 Klub Wesołych; 20.30 Koncert.

 



Аглоблі памалюецца і можна піць «літкуп».

Слова **каваль** вельмі часта ўжываецца на вёсцы, але гэта прафесія, найбольш характэрная для вёскі ў апошніх гадах, неяк загінула. Хаця вёска адчувае недахопы кавалёў і слёсараў, усё іх тут нямнога. З тым большаю прыемна-




сцю наведалі мы **Яна Бжэзінскага — каваля з Рагаўкі ў Сямяціцкім павеце.** Ці гэта толькі каваль? Называюць яго ў Рагаўцы і ў аколіцы кавалём, але Я. Бжэзінскаму не чужая і прафесія слёсара, зрэшты, мае ён і такія прылады. Ужо 7 год Я. Бжэзінскі служыць гаспадарам акалічных вёсак. А ўсё часцей тут праяўляюцца таксама і машыны з сельскагаспадарчага гуртка. Не лёгка было ўтрымаць сваю кузню. У першую чаргу трэба было закончыць курс і здаць экзамены на рамесніка ў Сямяцічах, а цяпер Я. Бжэзінскі праходзіць майстарскі курс і перакваліфікоўваецца на слёсара.

— Зараз больш слёсарскай працы, як кавальскай, — гаворыць нам.

Працы сапраўды хапае, а тым больш вясною. Зрэшты, ёсць тут і серыйная прадукцыя, незалежная ад пары года — гэта гумовыя вазы-балёны.

У час нашай пабыўкі якраз адзін з вазоў ужо быў амаль закончаны. Сабраўшыеся дзядзькі якраз выпрабоўвалі яго «на вока». Пасля такога выпрабавання адбылося фарбаванне аглобляў і новы балён паехаў служыць гаспадару і яго гаспадарцы.

Адным словам, на недахоп працы А. Бжэзінскі не наракае. Аднак мае цяжкасці з матэрыяламі. Перад усім тое, што купляе іх у Боцьках і Бельску. Ці сапраўды сямяціцкі гандаль не можа абяспечыць свайго рамесніка патрэбнымі матэрыяламі. Хіба можа, толькі трэба крушынку ахвоты і ўяўлення, што недзе ў Рагаўцы чалавек служыць акалічным сялянам.

А. Карпюк

Фота аўтара

# Літоўска-Беларуская ССР

Праўленні аддзелаў Беларускага і Літоўскага Таварыстваў у Варшаве 12 сакавіка г.г. у Доме савецкай культуры наладзілі вечар, на якім др Аляксей Дэруга выступіў з цікавым дакладам «Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ў 1919 годзе».

Дакладчык прыпомніў гісторыю тварэння беларускай дзяржаўнасці напярэдадні абмяркоўваемага перыяду. У выніку перамогі Кастрычніцкай Рэвалюцыі і вызвалення тэрыторыі Беларусі ад нямецкіх захопнікаў у канцы снежня 1918 г. у ЦК РКП(б) абмяркоўвалася пытанне стварэння БССР.

30—31 снежня 1918 г. у Смаленску адбылася VI паўночна-заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), якая аб'явіла сябе I з'ездам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. З'езд зацвердзіў Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Беларусі, які I студзеня 1919 г. апублікаваў Маніфест аб абвяшчэнні першай у гісторыі беларускай сацыялістычнай дзяржавы.

2—4 лютага 1919 г. у Мінску адбыўся I Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў Беларусі. На прапанову старшыні УЦВК Я. Свярдлова з'езд прыняў дэкларацыю аб аб'яднанні савецкіх сацыялістычных рэспублік Літвы і Беларусі, з мэтай лепшай абароны ўлады Саветаў ад знешняй экспансіі і ўнутранай контррэвалюцыі.

28 лютага гэтага ж года ў Вільна адбылося аб'яднанае пасяджэнне Цэнтральных Выканаўчых Камітэтаў Беларусі і Літвы, на якім быў выбраны ўрад Літоўска-Беларускай ССР на чале з вядомым палітычным дзеячам Савецкай Літвы Міцкевічам-Капсукасам. Аб'ядналіся таксама камуністычныя партыі і камсамольскія арганізацыі абедзвюх рэспублік.

Урад Літвы быў кааліцыйным. Перавагу ў ім складалі камуністы-літоўцы. Было тут таксама шмат вядомых польскіх камуністаў. Юльян Ляшчынскі (Лепскі) быў народным камісарам асветы, Язэп Уншліхт — камісарам нацыянальнай абароны, Мечыслаў Казлоўскі — камісарам справядлівасці, Станіслаў Бэрсон — камісарам народнага кантролю, Вацлаў Бельскі — камісарам сельскай гаспадаркі, яго намеснікам — Сцяпан Гэльтман, Станіслаў Пэстоўскі быў прадстаўніком Літбелу ў Маскве, Казімір Ціхоўскі — старшынёю ЦВК Літвы і Беларусі. Бундавец Вайнштайн быў камісарам фінансаў. Цікавым з'яўляецца той факт, што ва ўрадзе Літбелу не было ніводнага беларуса, нягледзячы на тое, што ў шасцімільённым насельніцтве рэспублікі перавагу мелі беларусы. Тлумачыцца гэта тым, што ў тым самым часе ў Мінску дзейнічаў губернскі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, у якім працавалі беларусы і які неўзабаве поўнасцю пераняў уладу.

Цікаўнасцю з'яўляецца і тое, што ў Літоўска-Беларускай ССР было аж пяць абавязваючых дзяржаўных моў: літоўская, беларуская, польская, руская і яўрэйская. Гэта таксама ўскладняла працу ўсяе адміністрацыі ў цяжкім ваенным становішчы рэспублікі.

Існаванне Літоўска - Беларускай ССР было кароткачасовае. Ужо ў лютым 1919 г. войскі Пілсудскага пачалі экспансію на беларускія землі. У сакавіку 1919 г. захапілі Брэст і заходнюю частку Гродзенскай губерні, а неўзабаве і Баранавічы. 21 красавіка 1919 г. акупіравалі Вільна. Урад Літоўска-Беларускай ССР эвакуіраваўся з Вільна ў Мінск. Тут размясціўся таксама Савет Абароны Літвы і Беларусі. На прапанову гэтага ж Савета ад 31 мая 1919 г. Савецкія Сацыялістычныя Рэспублікі Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы і Беларусі, аб'ядналі свае сілы і стварылі адзіны фронт супраць агульнага ворага. У сувязі з цяжкім становішчам, якое склалася ў Беларусі (Пілсудскі наступаў на Мінск) ЦВК Літбелу на сваім пасяджэнні 17 ліпеня 1919 г. пастанавіў распусціць Савет Абароны Беларусі і Літвы і перадаць усю справу абароны рэспублікі органам Чырвонай Арміі. Спыніў сваю дзейнасць і ўрад Літоўска-Беларускай ССР. Уся ўлада на свабоднай ад акупанта невялічкай частцы Беларусі (Віцебская і Магілёўская губерні ўваходзілі ў састаў РСФСР) перайшла да Мінскага губернскага Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта.

Пасля цікавага змястоўнага даклада др А. Дэругі дэманстраваўся фільм «Ніхто не хацеў паміраць», прадстаўляючы крывавую гераічную барацьбу літоўскай вёскі з нацыяналістычнымі бандамі ў перыяд станаўлення савецкай улады ў Літве пасля другой сусветнай вайны.

Фільм, які ўвайшоў на экраны нашай краіны, атрымаў станоўчую ацэнку на старонках польскіх часопісаў. З'яўляецца ён вялікім мастацкім дасягненнем кінематаграфіі Літоўскай ССР.

**Віктар Швед**

**А. Баршчэўскі, В. Швед**




**Хрэстаматыя для VIII класа**

### У ПАРАНІНЕ

**Сцены, як звон.**
**З сосен татраўскіх дом.**
**Рогі аленя, ґазніца.***
**Белы Дунаец шуміць за акном...**
**Рыпнула ціха масніца —**

**Да Ільіча за парадай прыйшоў**
**З сынам гураль барадаты.**
**Знялі калматыя шапкі з галоў,**
**Суляць* «дзень добры» у хату.**

**Прыйдзецца ім Ільіча пачакаць,**
**Зранку падаўся па справе:**
**Трэба на станцыю, да цягніка —**
**Пісьмы ў Расію адправіць.**

**Покуль адсюль на валах на старых**
**Выедзе пошта арбою,**
**Пройдуць гадзіны. А там жа сябры**
**Пісем чакаюць, як зброі.**

**Спорнай, таропкай хадою ідзе,**
**Сцежкі арліныя ўюцца.**
**Там, у Расіі, займаецца дзень**
**Зарывам рэвалюцыі...**

**Экскурсавод!**
**Ты не крыўдзіся, брат,**
**Ты, можа тут, як памылка якая.**
**Ленін са станцыі крочыць назад,**
**Выйдзем насустрач — спаткаем!**

**Рыгор Барадулін**

1. Адшукай на карце мясцовасць Паронін.
2. Адкажы, чаму і калі Ленін жыў у Польшчы?
3. Адшукай у падручніку па гісторыі тое месца, дзе гаворыцца пра Леніна і пазнаёмся з цэласцю матэрыялу.
4. Прыпомні творы, якія тэматычна звязаны з Леніным.
5. Чаму паэты і празаікі так часта пішуць пра Леніна?
6. Чаму постаць Леніна блізкая і дарагая не толькі рускім, але і другім народам?
7. Што ведаеш аб Кастрычніцкай рэвалюцыі і яе ролі ў жыцці народаў?
8. Вывучы верш напамяць.
9. Выканайце класам насценгазету: «Ленін — правадыр міжнароднага пралетарыяту».

**Слоўнік**

Газніца — лямпа.
Суліць — абяцаць.



## ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

### ШТО НОВАГА?

Бельскія бібліятэкаркі на семінары гаварылі многа аб конкурсе «Беларуская кніжка ў руках масавага чытача». Аб розных яго цяжкасцях і як іх прайсці. Купоны, нягледзячы на цяжкасці, памалу плывуць, дзякуючы перад усім бібліятэкарам. Плёскі прывезлі на семінар 10 купонаў (да паловы красавіка), Галады — 20, Пасынкі — 10.

*

У тоўстай папцы Павятовая бібліятэка ў Гайнаўцы прыслала вось 54 купоны з павета. Першая гэтая партыя вельмі цікавая. Чакаем на далейшыя.

(Працяг са стар. 1)

# КРЫВАВАЕ СВЯТА

гледзець дабытку і потым не паспела вырвацца з вёскі. Бацька хаваўся ў лесе.

На трэці дзень зранку раздаліся стрэлы і паявіўся агонь.

Але ён не захапіў цэлай вёскі. Гарэла Ульянава хата. Стаяла яна далёка ад вёскі, за рэчкай пад лесам. Стамтуль стралялі партызаны да немцаў і там у час вобыску жандары знайшлі самагонку.

І не толькі. Да хаты за рэчкай гітлераўцы загналі солтыса Ваўранюка, бо цвердзіў, што няма ў вёсцы «бандытаў», Ульянаву жонку і старэйшага сына з яго жонкаю. Да іх яшчэ далучылі нямога Ваську Грыцюка.

Ён найбольш нацярпеўся. Меў тады год пад 30. Адзначаўся вялікімі здольнасцямі да майстэркі. У яго глыбокіх кішэнях заўсёды было поўна розных бляшак, дроцікаў і ўсяго другога.

Ад немцаў Васька не ўцякаў. У час вобыску знайшлі ў яго дзве гільзы з выстраляных патронаў і торбачку, тады вельмі папулярнага, арматняга пораху.

Не паверылі, што ён нямы. Думалі, што прыкідваецца. Білі, язык вырывалі, аж урэшце загналі да Ульянавай хаты, замкнулі ўсіх разам, а хату падпалілі.

Вечарам па наваколлі разышлася вестка, што гітлераўцы пакінулі нашу вёску, што можна ўжо вяртацца. Але адважных усё яшчэ было мала.

— Яны такім спосабам, — талкавалі людзі, — хочуць сцягнуць людзей у вёску, каб пасля ўсіх накрыць у хатах і жыўцом спаліць, як гэтых ва Ульянавай хаце.

Жандары, на шчасце, не вярталіся. Вульчане, якія адважыліся прыйсці ў вёску, прыносілі весткі, што немцы расклеілі абвяшчэнні, у якіх «даруюць» вялікую «віну» жыхараў вёскі, калі яны вернуцца на свае гаспадаркі і пачнуць мірна працаваць дзеля дабра «тысячагадовага рэйха» і «вялікага фюрэра».

Зусім аднак гэтай «віны» не падаравалі. Налажылі на жыхараў вёскі кантрыбуцыю ў 30 тысяч германскіх марак. Паяснілі, што гэта для жонкі забітага жандарскага шэфа. Назначылі тыдзень часу для заплаты. Вулька ператварылася ў вялікі кірмаш.

30 тысяч марак — гэта была велізарная сума. Расклалі яе на ўсіх гаспадароў, апрача сем'яў памардаваных. Кожны прадаваў, што меў і мог прадаць. Грошы знайшліся.

### ЗВОНЯЦЬ, БЕГЧЫ!

Пасля прышоў загад, каб у вёсцы праз кожныя дзесяць дамоў развесіць сігнальныя званы. Найчасцей былі гэта выстраляныя гільзы арматніх снарадаў або доўгія кавалкі рэек.

Калі адазвуцца гэтыя званы — значыць, трывога. Трэба тады бегчы на пераклічку. Загад гэты адносіўся да ўсіх мужчын, пачынаючы ад 16-ці год узросту. На працягу 15 мінут ад першага ўдара ў званок усе мужчыны абавязаны былі ставіцца па сярэдзіне вёскі, ля школы. Хто не паспеў, гналі бізунамі і сабакамі. Многія вульчане па сённяшні дзень носяць на сваіх спінах шматлікія сляды ад тамтэйшых дзён. А Паўла Тэлямончыка забілі на смерць, забілі звычайна — пугаўямі, вырваўшы заспанага з пасцелі.

Часта здараліся такога роду трывогі. У Вульцы называлі іх «алярмамі». На слова: «Алярм!» — замірала сэрца. Яно абазначала і здзекі і смерць.

Алярм праходзіў так: усе мужчыны былі пастроены ў дзве шарэнгі, солтыс чытаў спісак жыхараў. Пачуўшы сваё прозвішча, трэба было прабегчы паміж чатырма жандарамі, якія білі гумовымі палкамі, колькі паспелі. А тых, хто спазняўся на гэты алярм, білі да непрытомнасці. Найчасцей бывала, што бруднай вадой адлівалі да трох разоў.

**Віктар Рудчык**



 

НАСТАЎНІК І ВЁСКА

# НАВУКІ МІНУЛАГА

Школа і настаўнік у беларускім вясковым асяроддзі маюць параўнальна доўгую традыцыю. Школа ў нашым вясковым асяроддзі ўзнікла ў першай палове мінулага стагоддзя, перажывала кароткі росквіт у шэсцьдзесятыя гады, потым наступіў яе занепад і, урэшце, паўторнае развіццё ў васьмідзесятыя гады XIX стагоддзя, трываўшае аж да I сусветнай вайны. Зразумела, маю тут на думцы расійскую царскую, у прыватнасці, царкоўнапрыхадскую школу. Школа гэтая была аднак прымітыўнай, так не падобнай да сённяшніх нашых уяўленняў аб школе, што проста страшна называць яе школай. Не было ні класаў, ні ўрокаў, не было праграм, падручнікаў, сшыткаў, дзённікаў, партаў і школьных будынкаў. Істота гэтай школы зводзілася да таго, што настаўнік, які ўмеў чытаць і пісаць, вучыў гэтага самага, як умеў і як хацеў, дзетварню. Вучыў ён яе такім жа чынам пэўных элементарных ведаў з матэматыкі, гісторыі, геаграфіі і, зразумела, слова Божага. Звязана гэта з агульным узроўнем культуры і асветы ў тыя часы. Справа пачынаецца быць цікавай, калі ўсвядомім, што гэтая прымітыўная школа зрабіла свой трывалы адбітак і трывалы ўплыў на жыццё і культуру насельніцтва нашай вёскі. Уплыў гэты праявіўся, праўдападобна, у большай ці меншай ступені ва ўсіх галінах жыцця: у галіне матэрыяльнай культуры, спосабаў гаспадаравання і г.д. Найбольш аднак выразным быў ён у галіне духоўнай культуры, у галіне светапогляду, ведаў, мастацтва. Царская прымітыўная школа засвоіла народным масам асноўныя прозвішчы, назвы і паняцці рускай гісторыі і гісторыі рускай літаратуры. Прозвішчы Івана Грознага, Пятра I, Кутузава, Пушкіна, Лермантава і іншых сталі вядомымі сялянам і па-свойму блізкімі. З постацямі гэтымі ва ўяўленні сялян спляліся пэўныя вобразы — менш ці больш праўдзівыя, пэўныя эмацыянальныя пачуцці. Гэтыя вобразы і гэтыя пачуцці былі пераказваны малодшаму пакаленню і тады, калі перастала існаваць гэтая школа і беларускіх сялян ніхто не вучыў ні чытаць ні пісаць. Некаторыя вершы са старых царскіх падручнікаў, пераказваныя дзядулямі, ператрывалі ў народнай памяці той жа самай дарогай, што і народная вусная творчасць аж да нашых дзён. Рэдка хто з нас не навучыўся ў дзяцінстве ад напаўпісьменных дзядуляў хаця такой простай і прыемнай пушкінскай страфы:

Буря мглою небо кроет,
Вихри снежные крутя.
То как зверь она завоет,
То заплачет, как дитя.

Гэтае ж самае можам сказаць аб гістарычных падзеях, веды аб якіх заносіла ў вёску школа. Так, напрыклад, нашэсце Напалеона на Маскву абрасло мясцовай легендай, звязалася з курганамі і пагоркамі, у якіх згодна з легендамі або Напалеон закапаў свае скарбы або пахаваныя былі воіны напалеонаўскіх баёў.

Са станам царскай школы і з яе ўплывамі на беларускую вёску цікава супаставіць польскую буржуазную школу міжваеннага перыяду. Перад усім трэба сцвердзіць, што школа гэтая мела значна лепш падрыхтаваныя кадры настаўнікаў, значна шырэйшую матэрыяльную базу, значна дасканальшую методыку, праграму і г.д. Нягледзячы на ўсё гэта, уплыў яе на культуру вёскі быў беспараўнальна слабейшы ад уплыву прымітыўнай, прыходскай школы. Вёска не засвоіла паняццяў і культурных вартасцей прапагаваных польскай буржуазнай школай, не паставіла іх нароўні з культурнымі вартасцямі ўласнай народнай культуры.

Час зрабіць вывады. Расійская царская школа, так як і буржуазная польская была класава чужой нашай вёсцы. Прапагавала ідэалогію і форму жыцця, варожыя класавым інтарэсам сялян. Нягледзячы аднак на класавую абмежаванасць царскай школы, розніла яе ад буржуазнай польскай школы тое, што не абражала яна этнічнай годнасці беларускіх сялян, не зневажала іх культуры, спосабу жыцця і веравызнання, не падкрэслівала вышэйшасці пісьменнай рускай культуры над культурай беларускаю. Наадварот: царская школа ўнесла ў вёску перакананне аб высокіх вартасцях іх этнічнай усходнеславянскай культуры, якую афіцыйная прапаганда, а затым і школа атоесамлівала з рускасцю ці са славянскасцю наогул, супрацьстаўляючы яе златынізаванай культуры польскай шляхты.

**Ул. Паўлючук**

# ШКОДЫ

Жыхары вёсак ля Белавежскай пушчы і ў самай пушчы наракаюць, што звяр'ё — асабліва зубры — чыняць вялікія шкоды на палях. Прычынаю іх тое, што пушча мала абгароджана, хаця лясная адміністрацыя не раз ужо абяцала паставіць агарожу. Час, каб яна ўрэшце датрымала слова, выканала свае абяцанні.

Набліжаецца вясна, неўзабаве пачнецца сяўба, зазелянеюць палі, якія застаюцца незабяспечанымі ад звярыных праходаў. Зноў будуць шкоды.

Дадаткова нервуе людзей і тая акалічнасць, што лясная адміністрацыя надта марудна выплачвае грашовыя рэкампенсаты гаспадарам за прычыненыя звярамі — зубрамі — шкоды на палях.

(ся)



На здымку. Прэзідыум канферэнцыі ў Бельску.

# Грамадскай працай у 1966 годзе

Мінулы год быў апошнім годам адзначэння 1000-годдзя Польскай дзяржавы. Апрацоўваючы праграму святкавання ў Гайнаўскім павеце, было разлічана на грамадскую актыўнасць, на працу грамадскім чынам на суму каля 12 мільёнаў зл. Заданні гэтыя былі выкананы. Вартасць працы грамадскім чынам дасягнула 11.901 тыс. зл. На падтрымку грамадскай працы былі выдзелены таксама дзяржаўныя датацыі. Найбольш масавымі былі дарожныя работы грамадскім чынам і ў галіне будовы школ. I так, пабудавана ў 1966 годзе 13,5 км шасейных дарог і праведзены рамонт дарог даўжынёю 12,2 км.

У галіне асветы зроблена наступнае: закончаны будовы школ у Кляшчэлях і Дабрывадзе, заканчваецца будова школы ў Чэхах Арлянскіх, дзіцячага саду ў Белавежы і пабудаваны фундаменты пад школы ў Саках і Дашах.

Прэзідыум МРН у Гайнаўцы выканаў шмат прац пры падставовай школе № 1 у Гайнаўцы, загаспадараваў прышкольны пляц і пасёлак Міленіум, выканаў работы на плошчы 480 м² вуліцы Падляшша II, улажыў 308 квадратных метраў ходніка на вуліцы Вызваленне і распачаў будову пляцу для навукі дарожнага руху.

**У галіне меліярацыі ў павеце выканана 4 км равоў, зроблена 20 пропускаў вады, праведзена карчаванне на 57 га зялёных угоддзяў. Апрача гэтага заканчваецца будова стражацкай рамізы ў Карыцісках, звезены матэрыялы і зроблены фундаменты пад будову рамізы ў Чыжах.**

Агульная вартасць заданняў выкананых грамадскай працай, на 38% вышэйшая ў параўнанні з 1965 годам, а дзяржаўная датацыя да гэтых прац узрасла толькі на 26%.

I так, на кожную 1000 зл. дзяржаўнай датацыі ў мінулым годзе выпадае 1343 зл. з працы, выкананай грамадскім чынам.

Калі і далей грамадства павета будзе актыўна ўключацца ў рэалізацыі працы грамадскім чынам, гэтыя залатоўкі будуць падвоены для агульнай карысці.

**Аляксандр Ражкевіч**
Гайнаўка

(Працяг са стар. 1)

# Настаўніцкія канферэнцыі

**Саколка**

Сакольшчына, найбольш зближаная моўна да беларускай літаратурнай мовы ў нашым ваяводстве, мае вялікія цяжкасці як з навучаннем роднай мовы, так і з увядзеннем яе ў тых мясцовасцях, дзе насельніцтва ёй карыстаецца.

У Сакольскім павеце было 18 школ з беларускай мовай навучання. Зараз ёсць толькі 12.

Да гэтага стану прычынілася перад усім тое, што каталіцкае насельніцтва (якое, дарэчы, часта не ведае іншай мовы як «простая», г.зн. беларуская) не хоча вучыць сваіх дзяцей гэтай мовы, а таксама недахоп кваліфікаваных кадраў настаўнікаў, якія б маглі добра і цікава навучаць беларускай мовы.

У суме Сакольшчына мае шэраг праблем, якія патрабуюць паступовага вырашэння як асветнымі ўладамі, так і праз зразуменне насельніцтва.

Праблемам, хвалюючым асветныя ўлады і БГКТ, была прысвечана нарада праўлення Сакольскага аддзела і настаўнікаў беларускай мовы. У нарадзе прынялі ўдзел намеснік інспектара Залеўскі і кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ Лобач. У дыскусіі многія настаўнікі падкрэслівалі занядбанні ў галіне падручнікаў да навучання роднай мовы, крытычна таксама выказаліся адносна праграмы.

Марыя Філановіч, кіраўнік школы з Паўночнага Вострава, сцвярджае, што дрэнных адносін да навучання беларускай мовы з боку бацькоў няма. Здараецца, што бацькі слабейшых вучняў хочуць звольніць сваіх дзяцей ад навучання. Намеснік інспектара Залеўскі сказаў, што там, дзе настаўнікі цікава вядуць урокі беларускай мовы, вучацца ўсе дзеці.

Асноўная праблема Сакольшчыны — гэта недахоп настаўнікаў беларускай мовы.

На нарадзе вырашылі праводзіць размовы на бацькоўскіх сходах на тэму ўвядзення беларускай мовы ў школах, дзе яе няма, і абавязалі прадстаўніка аддзела асветы і старшыню ГП БГКТ у Саколцы, каб паехалі ў Бельскі педагагічны і агульнаадукацыйны ліцэй з мэтай запрасіць іх выпускнікоў прыехаць працаваць на Сакольшчыну.

**Мікалай Лобач**

СЦЕРАЖЫЦЕ ПРЫРОДУ

# Чалавек вінаваты

Няпраўда, што ў нас найбольш лясоў, грыбоў, звяроў. Няпраўда, што ў нас многа цудоўных месц, не папсаваных чалавечай цывілізацыяй. Як мы не здзівімся, але варта падаць да публічнага ведама, што больш лясоў мае Слёнск (вядома, прапарцыянальна да тэрыторыі); больш у два разы мае лясоў Зеленагурскае ваяводства і Кашалiншчына. А калі гаварыць аб цэлай Польшчы, дык яна мае менш лясоў і рыбаводных рэк, чым суседняя прамысловая Чэхаславакія, чым Аўстрыя і іншыя індустрыяльныя краіны. I мы яшчэ толькі стаемся індустрыяльнай краінай.

Маем многа балот і меліяруем іх, загаспадароўваем. Вядома, карчуем да адзінага пня ўсе кусты ды дрэвы, забыўшыся аб тым, што гэтыя кусты і дрэвы спрыяюць раўнамернаму ўтрыманню вільгаці ў глебе. Меліяраванае балота праз дзесяць-дваццаць год пераўтворыцца ў палопаўшы ток, а меліярацыйныя равы — у высахлыя рavіска. Ужо цяпер выкідаем цяжкія тысячы злотых на пасадку выспаў кустоў і дрэў, без якіх няма добрай сенажаці; без якіх гіне звер і птушка, так патрэбныя ў барацьбе з усялякімі шкоднікамі; без якіх суседнія з балотамі палі робяцца пустынямі і высыхаюць калодзежы ў вёсках паблізу. А жа ж гэтыя выспы зяляніны і ценю можна было мець без ніякіх коштаў, наадварот — з ашчаднасцямі на коштах меліярацыі і загаспадароўвання. Бо даволі было папросту пакінуць іх сям-там, не выкарчоўваць.

Але чалавек па свайму характару вялікі зазнайка. Яму здаецца, што ўжо ўсё ведае і ўсё будзе так, як ён падумаў і захацеў... Трэба больш думаць, а менш хацець.

Рэгулюем рэкі і добра, што рэгулюем іх, робім больш прыдатнымі да карыстання. I раптам здзіўляемся, чаму гэта ва ўрэгуляваных рэках няма рыбы. Ну, чаму? Аказваецца, рыба не вядзецца ў чыстай-быстрай вадзе, патрэбны ёй ціхія зялёныя затокі, якія мы завалілі, бо выдаліся нам непатрэбнымі яны і нават небяспечнымі. Што рабіць? Трэба назад адваліць тыя затокі... ды не задарма, але зноў за немалыя грошы.

Прырода мсціцца на чалавеку за ягонае неразуменне яе.

Сакольская малачарня сама сабе не верыць, што выдушыла яна рыбу ў рацэ. Здавалася б, ніякай атруты не злівала, толькі белканосныя сцёкі, якія павінны хіба падкарміць рыбу... Але бялок, псуючыся ў вадзе, забірае з яе кіслярод (тлен) і рыба душыцца што да адной!

Ёсць рака, няма рыбы. Такога чагосьці не бывала нават у найбольшую вайну, у найгоршыя часы браканьерства і гранатаглушніцтва.

Ба, чалавек у сваёй лёгкадумнасці нішчыць нават самога сябе. У пагоні за даходамі выгадоўвае празмерна вялізную бульбу ці агуркі, якія разрастаюцца, калі сыпануць ім многа штучнага ўгнаення. Няважна, што такая бульба робіцца не толькі нясмачнай, але і нездаровай, бо замнога ў ёй чагосьці аднаго, а замала чагосьці другога... Людскі арганізм, спажываючы такую бульбу, паступова атручваецца церазмернасцю аднаго рэчыва, якога якраз і не патрабуе ён аж так многа (напр., азоту або серы). Кормім такою бульбаю свіней, таксама атручваючы паступова іх мяса, якое потым з'ядаем.

У высокаразвітых краінах даўно заўважылі, што залішняе прымяненне мінеральнага ўгнаення псуе смак бульбы, збожжа (мукі), гародніны, мяса. I шкоднае яно людзям. Напрыклад, у Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі існуюць нават спецыяльныя крамы, дзе прадаюць гародніну, вырашчаную на натуральным угнаенні, а не на штучным. Вядома, цэны такой гародніны высокія і не кожны можа дазволіць сабе на куплю яе.

На шчасце, ва ўмовах сацыялістычнага ладу няма такой дзікай пагоні за даходнасцю. I маем больш спрыяльныя ўмовы для разумнага выкарыстання штучных угнаенняў, якія ў першую чаргу павінны дапаўняць натуральнае ўгнаенне.

Зрэшты, калі аперці гаспадарку на адных штучных гнаях, дык гэта давядзе да распаду глебы.

Доўга яшчэ трэба было б вылічваць віну і лёгкадумнасці чалавека на зямлі. I, як ён ні хітруе, аднак штораз вымушаны прыслухацца да голасу прыроды. I лічыцца з яе голасам.

(СЯ)




Не хочацца нам працаваць, мы аспалыя, лёгка стамляемся. І найчасцей здараецца гэта на пераломе зімы і лета. Гаворым тады: «веснавая стома». Адкуль яна бярэцца?

Аказваецца, што найбольш істотны ўплыў на нашае самаадчуванне маюць змены ў сіле ўльтрафіялетавага праменявання, якое даходзіць да нас ад сонца. Калі восенню, а пазней зімой праменні сонца даходзяць да нас штораз большым касяком, тады даўжэй яны застаюцца ў атмасферы, якая адфільтроўвае ўльтрафіялетавае праменяванне. Значыць, арганізм чалавека атрымоўвае тады меншую яго дозу. Змены ў колькасці ўльтрафіялетавага праменявання заўсёды чалавек адчувае ў выглядзе стомы, аслаблення і санлівасці.

Даследамі ўплыву змен ультрафіялетавага праменявання інтэнсіўна займаецца зараз нямецкі вучоны з Франкфурта праф. Дэ Рудэр. Устанавіў ён, што пад уплывам хутка нарастаючай колькасці ўльтрафіялетавага праменявання, а гэта бывае ўжо ў пачатку лютага, нарастае колькасць выпадкаў захворванняў і смерці на сухоты, хваробы сэрца, асабліва разрыву сэрца. Тады таксама памяншаецца ўстойлівасць арганізма на ўсялякія заражэнні. З жыццёвага вопыту ведаем, што менавіта ў гэты перыяд найбольш людзі церпяць ад насмарку, прастуды і грыпа.

Гэтыя перамены сягаюць яшчэ глыбей. Зімова-веснавая стома абніжае прадуктыўнасць працы. На прадпрыемствах наглядаецца затармажэнне тэмпаў вытворчасці, расце лік памылак і бракаў, у транспарце тады наогул павялічваецца колькасць няшчасных здарэнняў, вучні і студэнты горш вучацца, а ў сямейным жыцці — супругі часцей сварацца.

Ці можна засцерагчыся ад веснавой стомы?

На жаль, лекаў на яе пакуль што няма. Добра аднак ведаць адкуль яна бярэцца і адносіцца да яе вельмі разважліва, стрымліваць і глушыць у сабе нервавыя ўспышкі.

**Нейтрына**

## Старажытныя афішы

Пад час археалагічных раскопак у старажытнагрэцкім горадзе Эфес, што знаходзіцца на заходнім узбярэжжы Малой Азіі, знойдзены афішы, якія вучоныя лічаць найбольш старажытнымі ў свеце. Гэтыя афішы адносяцца да V ст. да нашай эры, маюць выгляд мармуровых дошак, устаноўленых уздоўж дарогі да святыні Артэміды, аднаго з сямі цудаў свету.

На гэтых дошках выбіты вершы, хвалячыя хараство жанчын Эфеса, падарожнікаў запрашалі асабіста пераканацца ў тым. (а-ся)

**БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ**



**Цяпліцы саўгаса «Стара-Барысаў» Барысаўскага раёна Мінскай вобласці.**

### РЭКОРД У ВЯЗАННІ

Марыя Ландэрс з Сасянберга (Заходняя Германія) зноў абараніла свой тытул чэмпіёна свету ў вязанні на прутках.

Для трэніроўкі ў 1966 годзе яна перарабіла 141 кілаграмаў воўны, з якой звязала 223 світры, 7 плашчоў, 12 дзіцячых адзенняў, 2 жаночыя паліто, 4 сукенкі, шалі, рукавіцы і нават сукенку для маладухі. Вяжа яна з хуткасцю 70—90 петляў за мінуту. У сярэднім вязала па 12 гадзін у суткі.

Марыя Ландэрс — маці трох дзяцей. (а-ся)

### У АДНУ ГАДЗІНУ

У французскім горадзе Армант'ер тры сёстры: 37-гадовая Адыль Дэла, 29-гадовая Мары-Клер Дэўрэн і 22-гадовая Эмануэль Лякеш — падарылі сваім мужам па сыну ў адну і тую ж гадзіну.

— Мы заўсёды жылі дружна і за кожную справу браліся разам, — сказала карэспандэнту старэйшая сястра. — Але ў гэтым выпадку, паверце, мы ні ў чым не дамаўляліся. (а-ся)



## Спаборніцтвы за сыр

У Англіі існуе звычай арганізавання спаборніцтваў за сыр, які коціцца з гары. Звычай гэты існуе ўжо 500 год. Урачыстасць адбываецца штогод на Сёмуху.

Спецыяльна прыгатаваны на гэты дзень жоўты англійскі сыр у 4-кілаграмавых кружках дыяметрам у 25 см, у драўняным апакаванні, якое забяспечвае яго ад знішчэння, коціцца з гары.

На вяршыні гары становіцца майстар урачыстасці, штогод хтосьці іншы, выбраны сярод вядомых мясцовых асабістасцей.

Адзеты ён традыцыйна ў белы халат і капялюш, прыбраны лентамі ў трох колерах: чырвонай, белай і блакітнай. Уручае ён сыр стартэру, які за хвіліну, на сігнал майстра, апускае сыр з вяршыні гары. За сырам, які коціцца штораз хутчэй, бягуць пераважна маладыя людзі, перакідваючыся штораз на ўцеху гледачоў. Хто першы зловіць сыр, застаецца пераможцам і атрымоўвае яго як узнагароду. (а-мф)

## ВЫТВОРЦА МАНЕТ

Жыхар горада Санок, нейкі Міхаіл Гіферт, захацеў лёгкім спосабам узбагаціцца. Вырашыў ён выпускаць дзесяцізалатоўкі, якія паявіліся ў 1959, 1960, 1964 і 1965 гадах.

На шчасце (зразумела, не для фальшываманетчыка) саноцкая міліцыя хутка патрапіла выявіць намеры Гіферта і ён не паспеў нават выпусціць адной дзесяткі.

Да гэтага вываду дайшлі міліцэйскія спецыялісты пасля даследвання штампаў, якія знайшлі ў спрытнага злачынцы. Міхаіл Гіферт ужо раз сядзеў у турме за фальшаванне грошай.

**На здымку: Пры дапамозе гэтых штампаў Міхаіл Гіферт намерваўся рабіць дзесяцізалатовыя манеты. (а-вр).**



**ГАРДОН ЛОНСДЭЙЛ**




**Алек і Лонсдэйл працавалі разам спачатку ў Мінску, а пазней — у Берліне Гардон Лонсдэйл уладкаваўся на заводзе «Дэймлер і Бенц» і падтрымліваў сувязь паміж Алекам і Масквой. Аб гэтым ён піша:**

**« Мая работа ў Берліне заключалася галоўным чынам у падтрымцы радыёсувязі з цэнтрам. Натуральна, я павінен быў пазбягаць патрульных машын, якія шукалі нелегальныя радыёстанцыі. Часам мяне ахоплівала туга, але ўсведамленне таго, што разведвальная дзейнасць Алека з'яўляецца выключна важнай для перамогі над фашызмам, а таксама для паспяховага вырашэння пасляваенных праблем, надавала мне ўпэўненасць і сілу».**

**Алек быў галоўнай крыніцай інфармацыі для Савецкага ўрада аб сустрэчах аднаго з тагачасных кіраўнікоў амерыканскай разведкі Алена Далеса з гітлераўскім генералам СС Вольфам. Гэта інфармацыя дала падставы для ноты Савецкага ўрада ад 16 сакавіка 1945 года ўрадам Злучаных Штатаў і Вялікабрытаніі. Нота напамінала аб трохбаковым пагадненні адносна забароны сепаратных перагавораў з агульным ворагам. Рузвельт і Чэрчыль вымушаны былі пацвердзіць тады, што яны не збіраліся парушыць гэта пагадненне. Таму, калі Гімлер пры пасрэдніцтве шведскага графа Бернадота зрабіў яшчэ адну спробу ўступіць у перагаворы з імі, заходнія саюзнікі адхілілі гэту прапанову, ведаючы, што аб перагаворах будзе вядома Савецкаму ўраду.**

**Берлінская група Алека паспяхова падышла да завяршаючай фазы вайны. Гардон Лонсдэйл быў адзначаны за сваю дзейнасць. Пра сябе ён расказвае:**

**«У самым канцы вайны ў працоўным лагеры ў Марыенфельдзе я пазнаёміўся з цудоўнай дзяўчынай, полькай Галінай Панфілоўскай. Здарылася так, што неўзабаве мы страцілі адзін аднаго. Але сябры дапамаглі нам сустрэцца, і праз некаторы час мы пажаніліся. Мая жонка заўсёды была мне сапраўдным сябрам і выдатнай маці нашых дзяцей. Мы правялі ў разлуцы доўгія гады, але яна ніколі не старалася даведацца, з якім заданнем і куды мяне пасылаюць».**

**Пасля вайны Гардон Лонсдэйл вучыўся ў Савецкім Саюзе. У адзін са студзеньскіх дзён 1950 года яму пазваніў Антон, таварыш Лонсдэйла і Абеля па разведвальнай рабоце на Беларусі, і папрасіў зайсці да яго. Ён паведаміў, што Алек знаходзіцца ў Злучаных Штатах. Яго веданне гітлераўскай разведкі дапамагае яму цяпер сачыць за тым, як былыя нацысты сцягваюцца ў ЗША. Яны наладжваюць тайныя сустрэчы з уплывовымі амерыканскімі прамыслоўцамі і мілітарыстамі ў Пентагоне. Былыя нацысты рабіліся зноў небяспечнымі. Заданнем Алека было сачыць за імі і раскрываць іх намеры. Ён прасіў прыслаць да яго Гардона ў якасці памочніка. Халодная вайна супраць сацыялістычных краін была ў самым разгары, нарастала небяспека развязвання трэцяй сусветнай вайны. Гардон Лонсдэйл згадзіўся з прапановай свайго былога шэфа. Але як дабрацца да Злучаных Штатаў? Было вырашана перакінуць яго спачатку ў Заходнюю Германію, і ўжо адтуль ён паедзе ў Нью-Йорк як нямецкі эмігрант. Лонсдэйл дастаў дакументы на імя, пад якім ён-калісьці жыў як фольксдойч.**

**Дазвол на эміграцыю ў ЗША, па які Гардон Лонсдэйл звярнуўся да ўрада Заходняй Германіі, быў атрыманы ў канцы 1950 года. Пра свае першыя ўражанні ад знаходжання ў Нью-Йорку ён піша:**

**«Спачатку я адчуваў сябе нейкім ашалелым. Адразу ўспомнілася адзначэнне Нью-Йорка як горада Жоўтага д'ябла, і я быў здзіўлены, як мала там змянілася з таго часу, калі аб гэтым пісаў Горкі.**

**На трэці дзень пасля майго прыезду павінна была адбыцца першая сустрэча з Алекам. Я павольна ішоў па Сентрал-парку да ўмоўленага месца. Там была лаўка, на ёй сядзела старая жанчына. Побач — Алек. Ні ён, ні я нічым не паказалі, што мы знаёмыя. Я сеў і, прывітаўшыся з жанчынай, заначыў, што сёння цудоўны дзень. Пасля непрацяглай размовы жанчына ўстала і пайшла.**

**— Ты маеш рацыю, — сказаў Алек. — Сёння сапраўды цудоўны дзень.**

**І ён пачаў гаварыць сваім мяккім і ў**

# ТРЫБУНА чытачоў

## РЭДАКЦЫЯ «НІВЫ»

У 12 нумары «Нівы» закраліся дзве памылкі, якія праўдападобна паявіліся не па віне рэдактараў, а па віне аўтараў.

1. У артыкуле «Zarządzenie Ministra Oświaty i Szkolnictwa Wyższego», Materiał nauczania kl. V» змешчаны такі сказ: «Podbój Białorusi przez Tatarów».

У сувязі з гэтым цікава б было ведаць, як будуць рэалізаваць настаўнікі гэты пункт праграмы. Якія крыніцы паслужаць настаўніку за дапаможнік. Гістарычныя крыніцы могуць даць матэрыял аб татарскіх паходах на Беларусь, аб бітвах пачаткова рускіх князёў з татарамі, а пасля літоўскіх. Але цяжка будзе дашукацца такіх гістарычных вестак, якія б гаварылі аб заваяванні Беларусі, а калі ўжо так, то трэба будзе знайсці і вестку аб вызваленні Беларусі з татарскай няволі. А яе, бадай, ці ўдасца аўтару знайсці.

2. На старонцы другой «Нівы» змешчаны побач дзве інфармацыі: «Беларускае Баку» з подпісам «А.К.» і побач «Нафта» (С.Я.) У першай нафта ў Беларусі знойдзена ў заходняй Беларусі, а ў другой ва ўсходняй. Рэчыцкае Палессе — гэта не заходняя Беларусь. Думаю, што Рэдакцыя «Нівы» паправіць гэту памылку, бо такія хібы вельмі дрэнна сведчаць аб газеце.

Францішак Берніковіч
Седліска

Ад рэдакцыі:
Нафта ў Беларусі знойдзена ў розных месцах. У сваёй інфармацыі «А.К.» не ўспамінаў Рэчыцкага Палесся. Дадзеныя ўзяў ён з «Трыбуны люду» за 9.III.1967 г.

## У ЧЫЖЫКАХ

Чыжыкі (Гайнаўскі павет) — невялікая вёска, але ў ёй адзначаюцца розныя гадавіны і святы. Я хачу сказаць аб святе жанчын, на якім мясцовая настаўніца Марыя Мацкевіч злажыла пажаданні жанчынам, пасля пад яе кіраўніцтвам выступалі школьнікі са спецыяльна падрыхтаванай праграмай. І вось гэта — найважнейшае, таму што мамы паглядзелі, як выступаюць на сцэне іх дзеці. А выступалі добра: І дэкламацыя вершаў і выкананне песень усім мамам вельмі спадабалася. Пасля канцэрту школьнікаў адбылася забава для дарослых.

Марыся Швед
Чыжыкі

## «ЧЫРВОНАЕ ЛІСЦЕ» Ў РЭПІСКАХ

13 сакавіка ў Рэпісках кінаперасоўкай ГП БГКТ быў паказаны савецкі кінафільм «Чырвоныя лісце». Перад фільмам член прэзідыума Гайнаўскага аддзела БГКТ, настаўнік беларускай мовы ў ліцэі Васіль Сакоўскі пазнаёміў прысутных са зместам фільма і асабліва моцна падкрэсліваў у сваім выступленні ролю КПЗБ. І выступленне Васіля Сакоўскага і фільм былі цёпла прыняты прысутнымі.

Міхась з Рэпіск

## ГУТАРКА З ПРЭЗАСАМ

Праўленне Гміннай спулдзельні ў Нарве ўзначальвае Пятро Вярбіцкі. Наш сельскі карэспандэнт правёў з ім гутарку адносна кантрактацыі свіней, скупу збожжа ў мінулым годзе, аб забеспячэнні сялян мінеральнымі ўгнаеннямі і аб інвестыцыйных планах на гэты год.

Было запланавана ў 1966 годзе закантрактаваць у раёне ГС у Нарве 2006 свіней. План быў перавыкананы. Было закантрактавана 3128 свіней. Кантрактацыю перавыканалі, але скупілі свіней толькі 95,6% плана. А гэта таму, што некаторыя гаспадары не датрымалі падпісанага дагавору кантрактацыі. На гэты год таксама ўжо падпіска дагавораў кантрактацыі перавысіла план. Але невядома, як будзе з яго выкананнем.

Зараз Нараўскі ГС праводзіць падпіску на кантрактацыю збожжа на 1967 год. Запланавана закантрактаваць 420 гектараў, а падпісана дагаворы ўжо на 483.

Калі разыходзіцца аб мінеральныя ўгнаенні, дык у нараўскім ГС-е іх дастаткова. Найгорш толькі з тым, што сяляне не забяспечваюцца імі зімою, а купляюць мінеральныя ўгнаенні тады, калі трэба рассяваць іх па полі. А, вядома, у гэты час можа ўсім не хапіць патрэбных угнаенняў.

А вось інвестыцыі нараўскага ГС-у. У гэтым годзе запланавана пабудаваць склад на збожжа, склад на мінеральныя ўгнаенні, склад на ільнянае валакно. Запланавана таксама пабудаваць цвёрдую маставую на складзе скупу вугалю. У будове знаходзіцца сталовая.

Ярош
Гайнаўскі павет

## ХАЧУ ПАЗНАЁМІЦЦА

Я хачу пазнаёміцца з сяброўкамі з Беласточчыны і навязаць з імі перапіску. Мне зараз 25 год. З'яўляюся членам Саюза вясковай моладзі, а таксама членам Лігі абароны краіны. Жыву ў вёсцы Палічна, што ў Гайнаўскім павеце. У нашай вёсцы вельмі мала дзяўчат і таму быў бы вельмі задаволены весці перапіску з дзяўчатамі.

Мікола Вілюк
пошта і вёска Палічна 13
Гайнаўскі павет




Дарагое Сэрцайка!

Я маю 18 год і жыву на вёсцы. Часам хацеў бы пайсці на забаву, пагуляць, пазнаёміцца з дзяўчатамі. Не маю аднак адвагі гаварыць з дзяўчатамі і не знаю, як можна з імі пазнаёміцца. Мо' ты, Сэрцайка, параіш мне, як трэба паступаць у такіх выпадках. А вось прыклад.

Ідуць дзве дзяўчыны вуліцай на забаву. Як з імі пазнаёміцца? Або на забаве гуляюць дзве сяброўкі, як з імі пазнаёміцца? За параду буду вельмі ўдзячны. Чакаю адказу.

Віця з Бельшчыны

Дарагі Віця!

Такіх нясмелых хлопцаў ёсць многа, таму не перaймайся, ты не адзін. Але пастарайся пераадолець сваю нясмеласць. Праўда, што гэта не так лёгка зрабіць, як напісаць, але трэба. Цяжка мне ў пісьме напісаць табе, аб чым з імі гаварыць, як пачаць размову. Аднак старайся гаварыць аб чымсьці цікавым, ці нават абы аб чым, толькі не аб глупствах. Старайся да дзяўчат адносіцца культурна, далікатна, з пашанай. Дзяўчаты такіх хлопцаў любяць. Пытаеш, як пазнаёміцца з дзяўчатамі, якія ідуць вуліцай на забаву. Лягчэй пазнаёміцца з імі на забаве. Калі гэта будуць дзяўчаты са сваёй вёскі, дык вельмі проста. А калі гэта будуць чужыя, дык таксама можна прылучыцца да іх і ісці разам на забаву. Пры гэтым аднак загаварыць пару слоў, напр.: «Дзяўчаткі, ці магу да вас прылучыцца і разам пайсці на забаву?» або: «Вельмі прыемна было б мне пайсці з вамі на забаву, ці прымеце?» — і так далей. А на забаве папрасіць да танца адну з іх (зразумела, якую сам выбярэш), у танцы пачнеце гаварыць, пазнаёміцеся, а тады яна пазнаёміць цябе са сваёй сяброўкай. Вось і вы ўжо знаёмы.

Жадаю поспехаў — Сэрцайка

## ВЯСЕЛЛЕ НА ВЁСЦЫ



**Бацька развітваецца з дачкой.**

З пакалення на пакаленне перадаецца традыцыя падрыхтоўкі «пышных вяселляў». Як там жывецца, багата ці бедна, але ўжо так прынята, што кожны намагаецца зрабіць вясельную гасціну лепш, як сусед зрабіў. Ужо некалькі тыдняў перад вяселлем, як у маладой, так і ў маладога, вялікі рух, многа клопатаў. Рэжацца найлепшую цялушку і найлепшага кормніка, рыхтуецца смачная каўбаса і іншыя прысмакі.

У гэтых падрыхтоўках напрацуецца нямала ўся сям'я, як маладога, так і маладой. У час «піру» маладой пары ўсе запрошаныя госці складаюць пажаданні. Але не ўсе могуць быць запрошаны. І вось гэтыя незапрошаныя намагаюцца павесяліцца на кошт маладой пары. Прыходзяць і ўпамінаюцца гарэлкі. Усіх у вёсцы гарэлкай няма магчымасці абдзяліць. І вось тыя, што не атрымалі гарэлкі, робяць балаган, правакуюць да бойкі, выключаюць электрычнае святло. Гэтак было 13 лютага ў вёсцы Аўгустова. Вясельнікі культурна гуляюць, а няпрошаныя госці уводзяць бязлад і дзікасць.

**Ю. Леў**



**Складанне пажаданняў. Каб чыстыя былі пажаданні, трэба выпіць кілішак, трымаючы яго ў белай хустачцы.**

## ЯШЧЭ РАЗ АБ СВЯТЛІЦЫ

Нядаўна ў «Ніве» чытала я інфармацыю аб святліцы ў Агародніках (Бельскі павет). Там было напісана вельмі мала аб ёй, а я хачу напісаць больш. Святліца ў Агародніках была пабудавана ў 1965 годзе разам са школаю. У ёй моладзь арганізуе танцавальныя вечарыны, збіраецца ў ёй, калі мае вольны час.

Нядаўна, у лютым 1967 года, у святліцу праведзена электрычнае святло. Нягледзячы на тое, што святліца ў Агародніках існуе ўжо два гады, аднак да гэтага часу поўнасцю не выканана. Яшчэ ўсярэдзіне не даведзены да парадку сцены. А ГРН у Пасынках зусім аб гэтым не дбае. Гурток БГКТ, які існуе ў Агародніках, арганізоўваў мастацкія выступленні і вечарыны, а за сабраныя з гэтых мерапрыемстваў грошы купіў фіранкі на вокны і трохі яе ўдэкаравалі. Сама моладзь мые падлогу, замятае. Дрэнна яшчэ і з тым, што ў святліцы дзеці вешаюць паліто, балаганяць і смецяць. Вешалкі гэтыя можна было б перанесці на сцяну ў калідоры, і тады можна было б замкнуць святліцу і ўтрымаць у ёй чысціню. З гэтай просьбай моладзь звярталася да кіраўніка школы грам. Фалькоўскага, але, на жаль, ён не пераняўся просьбаю моладзі.

Жыхарка з Агароднікаў

**той жа час выразным голасам. Гаварыў вельмі коратка. Я павінен быў стаць яго памочнікам па справах сувязі. Трэба было наладзіць работу радыёстанцыі. Адначасова я павінен быў выконваць пэўныя заданні, звязаныя з нашай мінулай работай, — сачыць за былымі нацыстамі.**

**Я мог гаварыць з Алекам гадзінамі. Ён заўсёды быў для мяне надзвычай цікавым, а ў многіх адносінах — выключным чалавекам.**

**Гэты ціхі, старэючы чалавек, з павольнай паходкай ніколі не прыцягваў увагі сваім вонкавым выглядам і лёгка губляўся ў натоўпе. Яго праніклівы і інтэлігентны позірк ніколі надоўга не спыняўся на чым-небудзь, але заўсёды заўважаў і адзначаў усё сапраўды цікавае. Яго настойлівасць і самавалоданне заўсёды здзіўлялі і захаплялі.**

**Адзін з нашых таварышаў расказаў пра такі выпадак. Неяк вечарам ён сустрэўся з Алекам на дрэнна асветленай вуліцы Нью-Йорка. У Алека пры сабе былі надзвычай важныя дакументы і вялікая сума грошай. Раптам з-за вугла з'явіўся чалавек і крыкнуў: «Рукі ўгору!»**

**Пакуль наш таварыш раздумваў, які спосаб дзю-до ўжыць, грабежнік ужо быў на зямлі і курчыўся ад болю. Яго пісталет быў у руках Алека. Ён дастаў з яго магазін і кінуў у канал.**

**— У далейшым выбірай каго-небудзь больш падыходзячага, — сказаў Алек грабежніку.** **(Працяг будзе)**

# КІНО

**Праграма
на 11—16.IV.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Kiermasz" (NRF), 11—12. „Grek Zorba" (USA). 13—14. „Pierwszy dzień wolności" (polski), 15—16.

**Кляшчэлі**
„Sprawa Barnaby Kossa" (czeski), 11—12. „14 dni" (jugosł.) 13—14. „Okno na Lunapark" (włoski), 15—16.

**Дубіны**
„Szalone wakacje" (jugosł.), „Nigdy nie wrócę" (radz.), 15—16.

**Нараўка**
„Oskarżony" (czeski), „Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 12—16.

**Нарва**
„Cisza, na sali operacja" (radziecki), „Dwonić Nortside 777" (USA), 12—16.

**Чыжы**
„Kraksa" (radz.), „Dni grozy i śmiechu" (USA), 12—16.

**Дубічы Царкоўныя**
„20 godzin" (węgierski), „Elektra" (franc.), 12—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Trzy kroki po ziemi" (polski), „Spacer po linie" (angl.), 12—16.

**Орля**
„Winnetou" (jugosł.), I i II s. 12—16.

**Райск**
„Nieznany" (polski), „Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), 12—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Szkoła grzeszników" (czeski). „Don Gabriel" (polski), 11—14.

**Міхалова**
„Wieczny kalendarz" (bułg.), 11—12. „Listek figowy" (węg.), 13—14. „Sublokator" (polski), 15—16.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Jej siedem wieczorów" (czeski), 11—12. „Walizka z milionami" (franc.), 13—14. „Nieśmiały w akcji" (radz.), 15—16.

**Шудзялава**
„Przybycie tytanów" (włoski), „Starsza pani bez godności" (franc.), 12—16.

**Сідра**
„Marcin w obłokach" (jugosłowiański), 11—12. „Towarzysz podróży" (radz.), 13—14. „Zerwany most" (polski), 15—16.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Arcylokaj" (franc.), „Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), 12—16.

**Новы Двор**
„Bandyci z Orgosolo" (włoski), „Dni grozy i śmiechu" (USA), 15—16.

**Ліпск**
„Pierwszy dzień mego syna" (czeski), „Szkarłatne godło odwagi" (polski), 15—16.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.755 Błtk M-3

Прышоў Мітрафан да маго Кастуся і пытае:

— Можа вы, суседку, у горад паедзеце? Бо прышоў пост, а ў хаці ані крупінкі. Баба мне ўжо горла праела.

— Як дасце сваго каня, то магу ехаць хоць заўтра, — уцешыўся Кастусь.

— З вялікаю прыемнасцю даў бы, але ў мяне конь босы — застагнаў Мітрафан.

— І ў мяне кабылка разбутая! Але што тут гаварыць аб конях, калі мая Мальвіна ледзь на сваю ногу дабярэ туфлі.

— Ты, Кастусь, хіба, не разумееш, што наш гандаль хоча ўгясці да вёскі гарадскую моду, — умяшалася я. — А ведаеце самі, што нашыя вясковыя ногі да гарадскіх туфляў не пасуюць.

— І цераз гэта я цэлае лета хаджу ў валянках! — перабіў мяне Мітрафан.

— Але з намі то яшчэ бяды няма, бо ніхто босы не ходзіць.

— Ну так, стары каваль захварэў, а маладога няма, — застагнаў Кастусь.

— А я вам параю маладога каваля...

— А хто ж ён такі? — загарачыўся Мітрафан. — Скажэце, Мальвіна?

— А Міша Спевуноў. Ён жа ў мінулым годзе скончыў школу сельскіх механізатараў...

— О! Я ўжо гаварыў з ім. Але ён мне казаў, што ў завадовай школе сельскай механізацыі іх коней каваць зусім не вучылі. А трактараў каваць не трэба. Але як у мінулым годзе на Мікітавым прыгорку папсаваўся трактар, то сам Міша прыбягаў да нас прасіць коней. Так што без каня ў нас яшчэ часта і сам трактар не рушыць.

— А на добрую справу трэба, каб у завадовых школах сельскіх механізатараў была арганізавана кавальская кафедра. Маем яшчэ шмат старых прафесараў кавальства. Пакуль яшчэ ёсць коні, няхай і вёска мела б дыпламаваных кавалёў. Можа й мой Лёнік быў бы магістрам кавальства.

— Эх, Мітрафан, ты маеш думкі, каляровымі марамі фарбаваныя. А тут вясна і ў поле трэба выходзіць...

Урэшце ўрадзілі ехаць да каваля на другую вёску. Запраглі пару коней і паехалі да Чырыкаўкі.

Мой Кастусь прывалокся да хаты на адвячорку...

— А што, падкаваў? — пытаю.

— Падкаваў то падкаваў. Але толькі выехалі за вёску, а нас цоп і, калі ласка, плаціце мандацік. Аддаў грошы на мандат, а для каваля астаўся вінаваты. Павер, Мальвінка, аддаў усё столькі грошай на мандаты, што мог бы для свае кабылкі купіць у ювеліра залатую падкову...

Цётка Мальвіна

## ЗАЛАТАЯ ПАДКОВА

# НІЎКА

— Дык, значыць, твой знаёмы з цырку да цабе не заходзіў?

### ПАСПЕШЛІВЫ АДКАЗ

— Дайце, калі ласка, кнігу скаргаў.

— А яе ўзялі на праверку.

— Шкада, я хацеў падзяку напісаць.

### ПРАФЕСІЙНАЕ ПАЖАДАННЕ

Загадчык швейнай майстэрні візе ў магазін партыю недабраякасных штаноў.

— Што вы мне пажадаеце на дарогу? — пытае ён.

— Каб вы вярнуліся без штаноў.

## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

Людзі, якія вядуць спрэчкі пры дапамозе кулакоў, не ведаюць добрага слова.

*

Клопаты адсоўваюць людзей ад рэчаіснасці.

*

Таму, што чалавек зжываецца з асяроддзем, заўсёды цяжка яму з ім расставацца.

*

Хто іншым жадае зла, сам ніколі сапраўднага дабра не пазнае.

*

Чалавек, які не мае свайго погляду, слухае другіх і таму часта блудзіць.

— — —

### САСТАРЫЎСЯ

— Чаму ён гаворыць: «Я не пашкадую сваіх маладых сіл»? Дакладчык жа ўжо ў гадах?

— А ён па гэтай паперцы ўжо многа год выступае.

### БАГАТЫ ДЗЯДЗЬКА

— Вацы заручыны з Мэры скасаваны?

— Яна не захацела мяне.

— А вы ёй сказалі, што ў вас ёсць багаты дзядзька?

— Сказаў. Яна цяпер мая цётка.

### ПАРАДА

Тата падарыў сыну на дзень нараджэння барабан. З таго часу суседзі страцілі спакой.

Знайшоўся здагадлівы сусед, які падарыў хлопчыку сцізорык і параіў малому пацікавіцца, што робіцца ў сярэдзіне барабана.

— Эх! Не трэба было мне ўчора сп'яна з фокуснікам сварыцца.

### У ТРАМВАІ

— Чаму гэта ўсе так утаропіліся ў газеты? Можа нейкія цікавыя навіны?

— Ды не! У трамвай зайшоў хуліган.

### УСЁ ЗРАЗУМЕЎ

— Я ўсё зразумеў з вашай лекцыі пра будову сусвету. Адно толькі мне незразумела: як вы даведаліся назвы зорак?

**Песні па заяўках**

Па просьбе Валі Ляшэўскай з вёскі Плёскі, Бельскага павета, змяшчаем польскую песню п. з.

## PO SZÓSTEJ

Słowa: Jan Pietrzak Muzyka: Krzysztof Sadowski

1. Po szó-stej, po szó-stej spo-tka-my się znów Po szó-stej, po szó-stej, cześć, czołem bądź zdrów Po-śród sta-rych przy-ja-ciół, po-śród no-wych zna-jo-mych, Spędzisz wie-czór tak sa-mo al-bo le-piej niż w do-mu Po szó-stej, po szó-stej na-reszcie jest czas. Po szó-stej, po szóstej właśnie dziś pierwszy raz. Co-raz kró-tszy jest dzień, je-sień ma swo-je pra-wa, za-nim no-cka na-dej-dzie wpaść do Klu-bu wy-pa-da. Moż-na na-pić się ka-wy, tańczyć na-wet kan-ka-na. Człek i-sto-ta spo-łe-czna sta-ra pra-wda i zna-na. 2. Po

Po szóstej, po szóstej — spotkamy się znów,
Po szóstej, po szóstej — cześć, czołem — bądź zdrów.
Pośród starych przyjaciół,
Pośród nowych znajomych
Spędzisz wieczór tak samo
Albo lepiej niż w domu.

Po szóstej, po szóstej — nareszcie jest czas.
Po szóstej, po szóstej — właśnie dziś pierwszy raz.
Coraz krótszy jest dzień
— jesień ma swoje prawa.
Zanim nocka nadejdzie
Wpaść do klubu wypada.
Można napić się kawy,
Tańczyć — nawet kankana,
Człek istota społeczna
— stara prawda i znana.

Po szóstej, po szóstej... itd.
Przecież każdy wie coś,
Czego nie zna kolega,
Na wymianie poglądów,
Cały dowcip polega.
Coś nowego usłyszysz,
potem w życiu — jak znalazł.
O zdarzeniach i ludziach,
O marzeniach i planach.

Po szóstej, po szóstej... itd.

# КУРЁЗЫ

### Макс-матацыкліст

Мішка Макс і яго чатырохногая жонка Машутка з'яўляюцца «артыстамі» ў адным з савецкіх цыркаў. Апошнім часам Макс навучыўся кіраваць матацыклам: робіць гэта так добра, што яго выхавацца і настаўнік, вядомы дрэсіроўшчык звяроў Валянцін Філатаў смела выехаў з мядзвежаю параю на вуліцы горада. Іх выезд не выклікаў ніякіх парушэнняў правілаў вулічнага руху. (а-лів)

### Няўдача

Па памылцы кантрабандыстаў у рукі міжнароднай паліцыі трапіла вялікая партыя парнаграфічных кінафільмаў. Гэтыя каляровыя вузкаплёначныя кінафільмы прыбылі ў Еўропу са Злучаных Штатаў, дзе іх вырабам займаліся нелегальныя кінастудыі. Карабель «Крыстаф Каломба», на якім знойдзены гэтыя фільмы, павінен быў частку свайго грузу пакінуць у Італіі, а астатняе прывезці ў Паўночную Афрыку.

### Як у сябе дома

Амерыканскаму кінаакцёру Орсану Ўэлесу, які зайшоў у адзін з мадрыдскіх рэстаранаў, чамусьці здалося, што афіцыянт дрэнна яго абслугоўвае. Надоўга думаючы, ён ударыў афіцыянта ў сківіцу, прыкрычаўшы: «Ці ведаеш ты, хто я?» Потым, праўда, для Ўэлеса наступілі менш прыемныя мінуты. Іспанскія афіцыянты проста выкінулі яго з рэстарана.

## Сміяне з намі

Многія з атэістаў пакланяюцца паўбагам.